Przesyłka pocztowa opłacona ryczałtem
ГОД ВЫДАНЬНЯ ПЕРШЫ

АСОБНЫ НУМАР 30 ГРОШ.



ГУМАРЫСТЫЧНАЯ 2-х ТЫДНЁВАЯ ЧАСОПІСЬ.

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: **ВІЛЬНЯ, Гэтманская вул., № 4** «МАЛАНКА»

**№ 13**
**1-га ЖНІЎНЯ.**
**1926 г.**

ПАДПІСНАЯ ЦАНА:
на 1 год 8 злот.
„ паўгоду 4 „
„ тры мес. 2 „
„ адзін м. 1 „
За граніцу: на год—тры даляры, на паўгоду—1 д. і 50 цэнт.

# Любяць ехаць на мужыку.



СЕЛЯНІН-БЕЛАРУС: Хоць паны з соцыялістымі сварацца нібы, але абодва любяць езьдзіць на мужыцкім карку. Ой-ёй не датрымаю, — цяжка! Чую, што хутка скіну іх у прорву.



ЯКУБ КОЛАС.

* * *

Плян гатовы,
Зложан цьвёрда,
Воля горда,
Непарушна.
У сьвет новы
За дубровы,
Бо тут душна!
Сустрэнь, поле,
Прытулі ты:
Я пазбыты
Твае ласкі.
Хочуць волі,
Просяць долі
Песьні-краскі.
Сустрэнь, лесе,
Ясным сьмехам,
Гучным рэхам
Загукай
І ў завесе
Тваіх шатаў
Голас братаў,
Мне падай!
Глянь ты, сонца
З-за аблокаў
Добрым вокам —
Я — твоі сын!
Я ў палонцы,
Лёдам скуты,
Я прыгнуты,
Я адзін!

Разгарнуць хачу я крыльле —
Я ў сьвет вольны палячу,
Бо мне тут не паплячу,
Бо я тут жывы ў магіле,
Я пастаўлю сілу сіле —
Волю сам я ўзяць хачу!

П. ТРУС.

# У ЖНІВО.

Шаўкавістым бацістам поле
Разгарнулася ўшыр акіяну,
Сёньня вольнае гоняў прывольле
Новай песьняю сьмела буяніць,

Загарэлыя, смуглыя жнеі
Вышлі рацьцю густой на загоны.
Сэрца поўніцца ў шчасьце надзеяй—
Там, дзе некалі чуўся прыгон.

Дзе напевы мінуўшчыны дымнай
Над палеткамі страшна віхрылі, —
Там сягоньня з бадзёрным уздымам
Па-над постацьцю жнеі кадрыляць.

Падымаюцца поўныя жмені,
Над прасторамі сьпелага жыта,
Гасьне ночы-глушы задумленьне —
Новы дзень залунаў на мяжы там.

Зазьвінелі крывыя сярпочкі,
Бачу—радасьць у жней на вачох.
Борзда сьцелюцца ў мітусь снапочкі,
Праца спорыцца, гнецца плячо.

Заліваецца даль адгалоскамі —
Грудзі шырацца жыцьцем вясны,
Усьміхаецца весела вёска,
Змыўшы чары, таемныя сны.

Расступіліся цёмныя цені,
Дзе кіпіць маладое жніво
Я к прастору прылёг на палене —
Упаіцца яго хараством.

Эх, бязьмежнае волі раздольле!..
Так і шырыцца з песьняю шаг
Не аслабяцца рукі на полі,
Калі поўна надзеі душа!..



## У школе.

*Настаўнік:* Чаму ты Паўлюсь учора ня быў у школе?

*Паўлюсь:* Учора каля нас, на дварэ лавілі злодзея, дык мне матулька сказала пайсьці паглядзець, можа гэта татка.

## Паміж сябрамі.

— Мая нарачоная багатая і прыгожая, а да гэтага яшчэ і маладая. Толькі аднаго ня ведаю — ці разумная...

— Не бядуй! Пра гэта даведаешся пасьля шлюбу. Калі выйдзе за цябе, дык пэўне-ж не разумная.

**Данко.**

## У судзе.

*Судзьдзя:* Як вы маглі над сваей жонкай гэтак зьбыткавацца!

*Абвінавачаны:* А ці пан судзьдзя знаець маю жонку?

*Судзьдзя:* Не, скуль жа яе мог знаць!

*Абвінавачаны:* Дык і не дапытвайцеся...

**«Зыз».**

## Хто сказаці можа, ці гэты „доктар“ паможа?




Стогне, енчыць польскі злоты
Кожны год аб ім клапоты
Відаць чмуты — дактары
Выймуць душу без пары.

Лечыць злоты наш цяпер
Амэрыканец Кэммэрэр
Але няма (на безгалоўе)
Ані сьмерці, ні... здароўя.

з цыклю

## Беларускія тыпы.



Я пісьменьнік А *лях*-Новіч.
Грошы плаце мне паповіч;
Чым магу яму служу,
Слоўца проці не кажу.

Быў раней у „Тымчасовэй“
Сёньня ў „Радзе“ ўжо я новай
Віцэ-прэзэсам ці чым —
Сам ня ведаю аб тым.

Зьезд калі адкрыцці трэба,
Жду натхненьня сабе з неба.
Прамаўляць гатоў раз-два:
Як прыкажа „Галава“.

За аванс у пару злотых
Я гатоў служыць да поту.
Толькі тых я і люблю,
Дзе хоць крыху зараблю.

Гандляваў калісь я „Звонам“—
То з Аўгенам, то з Антонам
Таргаваўся, колькі мог,
І згадзіўся, далібог!

За шаснастку маё імя
Брала думкамі чужымі
Мужыковы галасы
У выборчыя часы.

І за гэткае стараньне,
За паўнейшае адданьне
Беларускім мужыком —
Нат ня стаўся я паслом.

Грызе жонка, выюць дзеці, —
(Праўда дзе-ж цяпер на сьвеце?)
Мушу хлеба ім шукаць —
Сам сабой спэкуляваць.

Добра людзі хоць ня лаюць,
Яшчэ нейку ласку маюць,
Мусі ж ведаюць яны:
Я ня подлы а... дурны.

**Курганскі.**

## Саўнечнікі.

**(Байка).**

Штодня на ранку, з году ў год
Ад сонца ярыўся усход
Але ня ў сонцы тутка дзела:
Сям'я саўнечнікаў сядзела
За частаколам краем-бокам
І ўсё сачыла пільным вокам
За тварам сонца залатога,
Ці мала схіліцца, ці многа,
Дык і саўнечнікаў сямейка
Пастолькі гнулась сілай нейкай.
(Хадзіла навакола плётка,
Што голад кожнаму ня цётка).
На сьвеце раз паўсталі дзівы,
Што дзед ня помніў тога сівы:
Ў адзін прыгожы, ясны дзень
Упаў з другога боку цень.
Было там гутарак нямала...
Аж тут другое дзіва стала.
Ў гародзе дзіўны карагод
Ды гоман—бы пусьцілі млын —
Саўнечнікі, ўсе як адзін
Перакруціліся на заход.
Ну, насьмяяліся яшчэ —
„Усё звычайна так цячэ“...
На тым быў і канчатак сьмеха.
Але саўнечнікам пацеха
Ня кончылась на тым здарэньні.—
Яны зьвярнулі ўсторч карэньні.

---

Людцы, паслухайце мужчыны:
За сонцам гніцесь як расьліны,
Адное майце на сумленьні —
Свае карэньні.

**Куралес.**

## Есьць лякарства на гультайства.



Праменьні сонца, смаляць-паляць
Гультаі на „пляжу“ валяць,
Сваё сала грэюць, мочаць
Пахудзець хоць крыху хочуць

І пачулі у адказ:
„Папрацуйце-ж вы хоць раз;
„Папрацаваць тут на полі,—
„Спадзець сала з вас паволі.

# Хоць гультаём мяне завуць, — з працы ўсе мае жывуць.



1.

Селяніну сёньня міла:
Збожжа слаўна урадзіла,
Будзе мецi многа хлеба,—
Зажывець цяпер, як трэба!



2.

Яшчэ жыта на загоне,
Сэквэстратара чорт гоне,
Прэцца полем, ледзь-ледзь дыша,
За падаткі ўсё апіша.



3.

Вось ужо й купец па полі,
Грошы мае ён даволі.
Ён да хлеба так ахвочы —
Зарабіці добра хоча.



4.

Ураджай пасланы з неба,
Ксяндзу пэўна-ж даці трэба
Гэта-ж кожны хоча есьці,—
Трэба і яму завезьці.



5.

То за дрэва, то за пашу,
Трэба-ж цяжку працу нашу
Несьці ў двор, хоць хто ня можа,
Паны вельмі любяць збожа.



6.

Ўжо мінуўся зімы холад,
З вясной ў хату лезе голад:
Плача жонка, плачуць дзеці,
Сьвішча вецер глуха ў клеці.

## Адчынеце вокны!..

**(Праўда ня праўда,— жарт ня жарт).**

Адзін немец які нямала вандраваў па нашай зямельцы і добра прыглядаўся да нашага жыцьця апавядаў мне, што галоўнаю прычынаю ўсіх нашых няўдач і бязладзьдзя зьяўляецца адсутнасьць *паветра і сонца*.

— Як гэта так! — зьдзівіўся я. Вам на Беларусі мала паветра і сонца!? Едзьце на вёску: паглядзеце, якія прыгожыя палі, лясы, рэчкі; колькі прастору, хараства! А, сонца, сонца... Паветра чысьценькае, як крышталь,—гэта-ж клімат нашае Беларусі ёсьць найздаравейшым кліматам усяе сярэдняе Эўропы.

— Гэта праўда,—адказвае немец, прырода багата абдарыла ваш край і мо' запраўды прыгажэйшы ён за іншыя суседнія краі але вы самі гэтым хараством, гэтым багацтвам карыстацца ня ўмееце.

Уваходзячы ў вёску бачыш крывыя, абдзёртыя, раскіданыя ў беспарадку хаты, якія сваімі маленечкімі вокнамі не глядзяць, а жмурацца, як кот на сонцы. Шыбы павыбіваныя і пазатыканыя ганучамі.

Мала садоў, а кветак амаль нігдзе ня знойдзеш.

Ад найменшага дажджу стаіць на вуліцы непрахадзімае балота—раздольле для сьвіней.

А ў хаце цесната, гразь, задуха—рассаднік усялякіх хваробаў.

— Чаму гэта? (дзівіцца немец) ці-ж вы ня можаце адчыніць вокны і дыхаць сьвежым паветрам!

— Таму, бачыце, кажу я, што яшчэ цемната наша, някультурнасьць...

— Перапрашаю, — перабівае мяне немец, а ад чаго ваша цемната, як не ад вашай нядбаласьці, неахайнасьці: вам мімаволі здаецца, што вы й запраўды той вечны раб-нявольнік, якому лёс не дазваляе сьмела глянуць на сонца, таму мусіце хавацца па цёмных панурых закутках.—Гэта нявольніцтва пакутуе ў вас. Ці-ж вы ня ў сілах збавіцца ад яго. Ня дзіва, што ў вас няма ні яснае думкі ні размаху.

Болей паветра, болей сонца!— пасяброўску параіў мне немец.

Ну гэта толькі ў вёсцы,—думаў я, а ў месьце ўсё інакш, ўсё па-людзку, ўсё культурна пастаўлена.

* * *

Нядаўна мне прышлося быць у Вільні. Абышоў я некулькі беларускіх рэдакцыяў і установаў і вельмі рад быў што ня было са мной майго сябра-немца, бо і тут-бы ён закрычэў:

— Адчынеце вокны!

Трэба было мне ў важнай справе бачыцца з адным тутэйшым дзеячом Х.

Ну і хадзіў-жа я ад Янаша да Каіфаша.

Спачатку прышоў у рэзыдэнцыю гэтага дзеяча, а яго ўжо няма:

— Быў, — кажуць, — у банк паляцеў.

Я туды.

# Ня ўчыў бацькоў шанаваць, — цяпер трэба жабраваць.



1.

Былі ў бацькі тры сыны
Ды ўсе яны пястуны,
Пілі, елі і расьлі,
Гульні розныя вялі.



2.

Ўмелі чубіцца штодня
Была вечна мітусьня —
Адзін брату трах у нос
Той таго за лоб патрос.



3.

А як дзеткі падрасьлі,
Дык у людзі ўсе пашлі:
Першы—гляньце які вун,
Ўсім паказвае бізун.



4.

А другі пашоў у двор
І акоман на узор,
Падганяе мужыкоў
Бедных панскіх парабкоў.



5.

Трэці пісар валасны, —
(Ўсе, як бачыце, паны), —
З тым, што хочаш, гавары,
Калі носіш хабары.



6.

А іх бацьку мужыка
Бачым мы, як жабрака,
Бо ад роднага ўсяго
Адыйшлі сыны яго.

---

Бягу бягом — сьпяшаюся.

Пераступіў парог і йду вобмацкам па цёмным калідоры.

Спакайней і бесьпячней можна прайсьці праз вялікую Налібоцкую пушчу, як праз гэты невялічкі цёмны калідор.

Мімавольна схапіўся я за кішаню, ў якой было ўсяго два злотыя, бо ў кожным кутку гэтага калідору стаялі падазронныя фігуры і нешта таямніча шапталіся і гэркалі.

— А што, як апошнія два злотыя адбяруць, што я рабіціму?!

Няшчасьце аднак мінула.

У банку я гэтага дзеяча не застаў:

— Пайшоў, — кажуць, — у рэдакцыю.

Зноў бягу бягом. Зьбіў з ног нейкага разявяку, шмат каго паштурхаў і ў момант быў ў рэдакцыі.

Як толькі адчыніў я першыя дзьверы, дык быццам пад зямлёй апынуўся: цемната страшэнная.

Іду адважна ўперад, аж... стук лобам аб нешта, што іскры з лоба пасыпаліся і ў вачох паясьнела, — гляджу я, ажно гэта дзьверы; адчыніў іх, — ізноў цёмна.

— Што за ліха! Што гэта за цемната пякельная, а яшчэ рэдакцыя!

Чую я, нешта цёплае палілося мне з галавы на грудзі. Мац—аж гэта чырвоная юшка.

Вось — думаю сабе, якія моцныя дзьверы, лабаціну сабе рассадзіў, а дзьверы не падаліся.

Выйшаў на двор, абмыў вадой твар; добра, што хоць адна выгада — рэчка, „Качарга" тут блізка праходзіць.

Распытаўся пасьля пра дзеяча Х ажно яго і тут няма:

— Пайшоў, — кажуць, — наверх.

Як наверх, дык наверх.

І я наверх.

Тут месьціцца адна даволі важная палітычная установа.

Чытаю вывеску, напісаную алавіком на паперы. Прызнацца, зрабіла яна на мяне прыкрае ўражаньне: нечым тандэтным, нясталым веець ад яе.

Малая і душная кватэрка была ўся закідана паперамі. За сталом сядзеў рослы, паджылы дзяціна. Валасы яго былі страшэнна скудлачаны, а вопратка сьведчыла аб пралетарскім паходжаньні яе гаспадара.

Гэта быў „старшы".

Каля яго ўвіхаліся нейкія бязвусыя хлапцы, рвучы і кідаючы на падлогу паперу.

На ложку з катом забаўляліся малыя дзеткі.

У кутку былі прымацованы патрэты сьвятых з лямпачкаю.

Відаць, людзі жывуць тут „у страху божым".

Я нясьмела запытаўся пра Х.

— А на што ён вам? — пытаньнем адказаў „старшы".

— Маю да яго асабістую справу.

— Якую?

— Перапрашаю, гэта — сакрэт.

— Кажэце ўсёроўна.

— Не магу — сакрэт.

— Што за сакрэт? А вы ведаеце хто я!

— Н—не, ня ведаю...

— Ого, я! Я тут усім кірую. Перада мной рэдактары, адміністратары, сэкрэтары са страху дрыжаць: я ім загадваю, я імі камандую, я рэзалюцыі для рэдакцыяў накладваю.

Ого, я! Я! — крыкнуў ён велічава стукнуўшы кулаком па стале, які, як відаць, быў за нешта сярдзіты на мыла, бо даўно яго ня ўжываў.

— Татка, адшпілі мне портачкі, я вонкі хачу, — перарваў „старшага“ хлопчык.

„Старшы“ заняўся сваімі бацькаўскімі абавязкамі, а я ў той час незаметна выйшаў.

У той дзень я дзеяча Х ня бачыў, — прышлося начаваць.

Уночы сьніўся мне цяжкі, як мара, сон.

Сьнілася, што ўся Беларусь душыцца ў нейкай цемнаце, цеснаце, духаце.

Мала паветра, мала сонца, мала размаху!

Гэта згушчаная атмосфэра адурманьвае рэдактароў, палітыкаў, дзеячоў; лаюцца яны ўзаемна, як лютыя ворагі, паліваючы, сьмярдзючай воняй ўсё былое і нябылое.

Усё пахавалася ў нейкія цёмныя норы, як-бы баючыяся сонца, сьвету, харства.

— Адчынеце вокны! — крычу я зо сну. Упусьцеце сьвежасьці, радасьці, — упусьцеце сонца!

А сонца гарачымі праменьнямі смаліла мне проста ў галаву.

Я прачхнуўся.

Ах, як гэта добра, што быў толькі сон...

„Злыя Вочы“.

## АШУКАЎ.

— Ну і ашукаў я сёньня кандуктара. Ехаў я гэта я ў вагоне, „для курцоў“, а ніводнае люлькі ня выкурыў.

## ІДЗІ СЬМЕЛА.

— Чалавеча! Чаму ў вас такі благі мост,—гэта-ж перайсьці боязна: заваліцца можна.

— Ідзеце сьмела! Нядаўна п'яны войт пераходзіў і то не заваліўся.

*Я. М.*

## „Тоже бѣлорусс“.



Я завуся Павлю-Кевіч,
Не які-небудзь дзякевіч,
А „попович я лихой“
Да и «доктор» боевой.

Я працую толькі год,
Баламучу свой народ.
Пра мяне пачуў весь сьвет,
Понимаете иль нѣт?

Потому все, что не трус
Я — чысьцейшы «бѣлоруссъ».
Ўсім паслом я пакажу;
Як малебен адслужу.

Адчыню сабе я «хатку» —
Надо только знаць ухватку
І с «лото» монету гнать...
Да вот не за что начать.

Оборвался мне кредит,
Дѣлу это повредит.
Не хватает шмат монет
Понимаете иль нѣт?

Ну і как тут не понять —
Надо каждаго нанять,
А долгов, долгов, долгов,
Хоть бѣги и будь таков.

„Съѣзд“ мой моцна подкачал,
Но еще я не пропал —
Есть маленечкі секрет
Понимаете иль нѣт?

Дней двадцатых подожду
Распишу всю Грамаду,
Хоць на гэтым зараблю,
Ой, як грошы я люблю!

Дэльфін.

## БЯЗ ГНЕВУ.

*Слуга*: Ня гневайцеся, паночку, але я ўжо два месяцы ад вас пэнсіі ня браў...

*Пан:* Нічога, нічога,—я ня гневаюся і далей гневацца ня буду.

Крапіва.

## Дзяльба сенакосу.

*З натуры.*

Аж крычыць сяло ад крыку —
Гэта дзеляць сенакос,
Дык сабраўся сход вялікі —
Дай і я ўваткну свой нос,
Можа й мне дадуць кусочак,
Хай хоць будзе асака,
Бо кароўка-ж сена хоча
Сам хачу я малака.
Падыходжу, чую сварка,
Ўсё мацнеюць галасы —
Гэта Ясь грызецца з Маркам, —
Вось паскусваюць насы.
„Каб цябе ўзяла вяроўка!
Ну, каму-ж ты аддасі? —
Адзін конік ды кароўка...
Хіба сам мо' паясі?“
„Дык табе мо' толькі трэба,
Што ў цябе кароў штук пяць?
Я за сена куплю хлеба,
У цябе-ж буду купляць“.
„Будзеш, мусіць, піскулянтам?“
„Спэкулянт, ды ня кулак“ —
Умяшаўся і Сьцяпан там —
Ён, бач, Марку быў сваяк.
Вось забрала і Вінцэся —
Ён камечыць кулакі;
Так як пеўні — ну фацэся!
Падарваў я з іх бакі —
З кулакамі лезуць к носу,
Што ні слова, дык і „маць“ —
Ўжо ня трэба й сенакосу —
Дай пярэбрыну зламаць —
Стала ўжо тут не да сьмеху —
Ў бойку лезе поўсяла,
Ясь вось Марку як заехаў,
Аж „сьмятана“ пацякла,
А Сьцяпан тут зараз Ясю
Размахнуўся ды — бабах!
Гэтак сама нос расквасіў,
Сам дастаўшы па зубах.
Я са сходу скарэй ходу,
Не схацеў і малака —
Лепш ні мёду, ні смуроду,
Ні па носе кулака.

## „Одродзэне моральнэ“.

За што гэта твайго мужа павялі ў вастрог?

— За „*одродзэне моральнэ*“.

— Якім чынам?

— Сеў у Вільні на аўтабус, а той чагосьці папсаваўся, ну дык ён і пачаў лічыць рэбры шофэру за тое, што не ад'яжджае.

— Ну, гэта яшчэ нічога: хутка павінны звольніць.

— Не, адвакат казаў, што ня звольняць, бо ён не афіцэр.

*Я. М.*

# Народны гумар.

### ПАЛІТЫКІ.

— Але-ж я кажу табе, калі Францыя таго, дык Нямечына гэтага, й годзі!

— Э, што ты ведаеш! Я лепш ведаю: бо калі Англія нібыто так сабе, а Нямеччына так ці сяк, дык тагды Францыя ні тое ні сёе, а пра Польшчу і казаць няма чаго!

Г. Л.

### ПЕРАМЯНІЎСЯ.

На кірмашы спатыкаецца двое сялян.

— А—ааа! чуць-чуць пазнаў... Здаецца Максім Галавешка? Ну і шмат-жа ж ты перамяніўся?

— Што? Я зусім не Максім Галавешка, а Сымон Бубен...

— Ну, зусім перамяніўся, — н'ат і прозьвішча ўжо ня тое.

### КАРЫСНАЯ ПАРТЫЯ.

— Кажуць, што як запішашся ў „Сялянскі Саюз“, дык зямлю будуць даваць?

— Але! пасол Ярэміч ужо купіў і зямлю і хату.

С. К.

### ЖАДАЕ ЛІХА.

— Казаў ксёндз на казаньні, што хто будзе беларусам, дык на тым сьвеце той пекла ня мінець.

— Калі гэтак, дык ня мы адны — і бацькі яго там будуць, бо і яны беларусы.

*Я. М.*

### КЕПСКАЯ ПАРА.

— Ой, сапраўды цяжка жывецца, кепская пара...

— Праўду кум кажаць, — вось я ўчора меў вялікую страту—прапала сто злотых.

— Няўжо?! Як-жа гэта?

— Хацеў дзе-колечы пазычыць, ды нідзе не дастаў.

Г. Л.

### НА ПАСТАРУНКУ.

— У вас пашпарт фальшывы,— кажа камэндант да сьвежа прыведзенага чалавека.

— Не,—пашпарт добры і праўдзівы, але... толькі я ня той.

### ДРУГІ ПАТОП.

— Ці чуў, Макар, поп казаў у цэркві, што калі людзі не паправяцца і будуць грашыць, дык будзе на зямлі другі патоп.

— Гэты патоп ужо даўно настаў. Ці-ж ня бачыш, Янка, колькі людзей штодзенна топіцца ў гарэлцы? — рэзонна адказаў Макар.

### АБРАБІЎ-БЫ ЗЯМЛЮ.

— Якая шкода, што я ня маю зямлі, — кажа абшарніку князь, у якога ад яго багацтва толькі адзін тытул застаўся, (бо маёнтак прагуляў).

— А на што табе зямля? што ты сам абрабляў-бы яе?—пытаецца абшарнік.

— Але! Гэтак абрабіў-бы, што толькі адны вэксалі-б засталіся,— адказаў князь.

Г. Л.

## Дзіўны абавязак.

Акцызны кантралёр зайшоў да местачковага крамніка і пачаў за нешта (а мо' і бяз-дай прычыны) пісаць пратакол.

Крамнік запрасіў акцызьніка да сябе і пасадзіў яго за стол, багата застаўлены рознымі гарэлкамі і закускамі.

Акцызьнік добра насьцёбаўся і начаставаўся, дый пачаў зноў пісаць пратакол. Крамнік усунуў некалькі даляраў яму да кішані і пачаў прасіць акцызьніка:

— Паночку, даруйце! Вось вам гасьцінчык.

— Усё сваім *пожондкем*, — адказвае акцызьнік: *выпілэм і закансілэм, — то своім пожондкем, доляры взенлэм тэж своім пожондкем, а цо тшэба протокул спожондзіць рувнеж своім пожондкем. Ніц не зробіш, — такі наш ценжкі обовёнзэк*!

## На кірмашы.

— Колькі, куме, далі за гэту кабылу?

— Ого, колькі! Дзьвесьце злотых.

— Але-ж за гэтыя грошы ў месьце можна было-б купіць самаход.

— А ліха яго з самаходам. Конь лепшы, — заўсёды гной ёсьць.

Крапіва.

## Вол і авадзень.

Байка.

(*Прысьвячаецца беларускім меншавіком (эсэрам). Рэд.*).

Гарачым летнім днём
Вол з ворыва вяртаўся,
Напрацаваўся, аж хістаўся,
За ім-жа куча аваднёў
Ляцела роем, —
Вядома тут, з якім настроем
Ісьці мог вол:
Глядзеў сярдзіта навакол,
Махаў хвастом, круціў рагамі
І біў па чэраве нагамі...
„А! сябра!.. Добры дзень!“
Сказаў лісьліва авадзень,
Усеўшыся валу на сьпіну;
„Як я цябе люблю! Які ты мілы!
Цябе я, сябра, да магілы
Ніколі не пакіну,
Я ўсюды за цябе пайду —
Ў агонь і ў нетру, і ў ваду,
Цяпер-жа вось да стойла давяду.
Але чаму ты такі злосны?“
— „Адстань, пракляты крывапіўца!
І без цябе мне млосна,
Цябе-ж я ведаю, паршыўца“, —
Сказаў сярдзіта вол ў адказ,
Патом
Хвастом
Па сьпіне — раз! —
Зваліўся той, як сноп далоў...

---

Ня мала ёсьць правадыроў,
Якія любяць люд працоўны
За тое толькі, бязумоўна,
Што любяць яго кроў,
Але даждуцца яны дня —
Змахнуць і іх, як авадня.

## Рэкорд спраўнасьці.

Сабраліся разам француз, англіец і паляк і пачалі выхваляць кожны сваю паліцыю:

— У нас, — кажа француз,— гэтак спраўна працуе паліцыя, што калі здарыцца якая кража, дык наша паліцыя яе за тыдзень высачыць.

— Э-гэ, у нас спраўней, — кажа англіец, бо наша паліцыя кожную крадзежу ў 24 гадзіны выкрыець.

— А ў нас, — пахваліўся паляк, дык паліцыя ўжо за тыдзень наперад ведае, дзе якая крадзежа будзе, бо ў вёсцы ўсе хаты трасе і трасе.

К. Сьвет...

# Прагулка па Вільні.

(Вучыцель паказваючы вучням-экскурсантам „здабыткі польскае культуры“ ў Вільні).




— Як кожны прававерны магамэтанін павінен зьведаць Мэкку, гэтак кожны праўдзівы паляк павінен зьведаць рэдакцыю *„Дзеньніка Віленскага“*, скуль пашыраецца фашызм, які ўратуе Польшчу.




— А цяпер трэба „зьведаць рэдакцыю *„Слова“*, дзе рыхтуюць для Польшчы караля, які дасьць нам збаўленьне, а праклятых беларусаў гэтак прыцісьне, што нават іх духу нідзе ня будзе.

## Нехта нейкі.

Нехта нейкі (нэндза тая)
Падыйшоў сабе да Грышкі,
Шапку зьняў і ў міг пытае:
—„Як тут трапіць на „Лукішкі?“

Гэты-ж хутка адазваўся,
Стаў тут раіць, прысягацца,
Каб той болей ня пытаўся
І адразу мог дастацца.

— „Каб з дарогі вам ня зьбіцца
„І знайсьці „Лукішкі“ гэты, —
„Трэ' рэдактарам зрабіцца
„Беларускае газэты!“

І урэшце так гавора:
— „Што тагды не агляменшся,
„Як бяз клопату і скора
„На „Лукішках“ апынешся!“

*Б. Г.*

## Усё звычайна.

— Чаму год 1926 завецца ў календары звычайным?

— Мусіць дзеля таго, што ў гэтым годзе будзе звычайная бяда, звычайная дарагоўля, звычайны крызыс, звычайнае зладзейства і шахрайства, звычайныя авантуры ў Сойме, адным словам усё звычайнае.

## Павлюкевіч у міністра.




— Ваше Высокопревосходительство! Не губіце мяне старага, — памілуйце: жонка, дзеці... Дайце авансік, гэта-ж я вам верна служыў, Заходнюю Беларусь прадаць хацеў, а цяпер магу прадаць усходнюю, а як будзе мала, дык Украіну, Каўказ... усё, што хочаце, толькі авансік дайце.

## Ад Рэдакцыі.

Прыпамінаем усім нашым падпісчыкам, якіх падпіска скончылася пасьпяшыць з прысланьнем грошай на III квартал с. г., дзеля гэтай мэты высылаем пры гэтым нумары блянк грашавога пераводу (przekaz pocztowy).

Хто не запоўніць гэтага пераводу і ня прышле грошай, таму больш „Маланкі“ высылаць ня будзем.

**Падпісная плата:**

На год 8 зл., на паўгода 4 зл. і на тры мес. 2 зл.

Адрэс: Вільня, Гэтманская, № 4.

## НАША ПОШТА.

**І. Лукьянёнку**: Вашыя, як Вы іх завеце, вершы толькі лішні баляст для рэдакцыйнага кошыка. А перапісваць пушкінскую „Деревню“ ды перасылаць нам дарма турбаваліся. Самі знайдзем тут на месцы, калі спатрэбіцца.

**Перапалоханаму Вартоўніку** Свой „верш“ Вы назвалі „Чапуха“. Зусім згаджаемся. Тое самае і Вашая „Сустрэча“. Радзім заняцца чым-нібудзь прасьцейшым.

Рэдактар-выдавец **М. Луцэвіч**. Друкарня Б. Клецкіна, Вільня